ГРАМАДЗЯНСКІЯ ІНІЦЫЯТЫВЫ
№5, ЖНІВЕНЬ 2012
ВЫДАЕЦЦА З 1997 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

ГІСТОРЫЯ

# Жлобін старэйшы за Кіеўскую Русь?!

**Марына ЯЎСЕЙЧЫК**


Тэльман Маслюкоў

У гарадскім парку Жлобіна сярод шкляных аскепцаў ды паперы з-пад цукерак можна знайсці і старажытныя рэчы: рэшткі керамікі, якія належаць да 16-18 стст. Глыбока і капаць не трэба — усяго толькі пільна прагледзець культурны слой, як кажуць археолагі, а па-іншаму — зямлю, па якой ходзім.

“Адкуль мне гэта вядома?”- пацікавіцца чытач. Дзякуючы светлагорскаму гісторыку, журналісту Тэльману Маслюкову, які запрасіў у археалагічную разведку жадаючых бліжэй пазнаёміцца з гісторыяй. Цікаўных сабралася няшмат. Гісторык Аляксандр Петухоў са Светлагорска, вучаніца 11 класа Светлагорскай гімназіі Аляксандра Леончык і студэнтка 1 курса БНТУ Вікторыя Сідарэнка.

Даследчык Міхаіл Ткачоў, які прыязджаў у Жлобін у 1983 годзе, піша, што горад узнік прыкладна ў 15 ст. і называўся тады Злобін. Пабудаваў яго гетман Ян Караль Хадкевіч з магнацкага роду Хадкевічаў.

Аднак, калі Тэльман Маслюкоў аглядаў тэрыторыю парка ў пачатку жніўня, то знайшоў археалагічны матэрыял, які даў больш ранція звесткі пра паселішчы, якія тут узніклі. Восеньская разведка дасць адказ на пытанне, якое так хвалюе гісторыкаў: Ці з’яўляецца паселішча дацірваным раней за 9 ст., яшчэ да ўтварэння Кіеўскай Русі?

“Там, дзе калісьці быў высокі замак, зараз знаходзіцца спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерва.

>>> 2

Аляксандр Петухоў


1 <<<



А падзамак заняты спартыўнай пляцоўкай. Уся тэрыторыя парка – гэта першапачатковая тэрыторыя, дзе рос горад" – расказвае Тэльман, а мы тым часам аглядаем тэрыторыю.

Аляксандр пачынае адмяраць тэрыторыю для сённяшняга даследавання – ставіць колышкі. Разбіваемся на дзве групы. Наша задача на сёння: абысці тэрыторыю парка і знайсці паверхневы матэрыял. Што ж будзем шукаць? Кераміку! Ганчарную, літную, рэшткі кафлі. Таксама неабходна ўдакладніць тапаграфічныя звесткі, знайсці, куды дзеўся ручай Чорначка, які ў 90-х гадах яшчэ цёк каля парку.

Сваю першую знаходку знайшла пад дрэвам на дзесятай хвіліне пошукаў. Увогуле, справіліся трохі болей чым за гадзіну. Агледзелі тэрыторыю памерам 180 м на 25 м. Сам працэс шукання знаходак нагадвае збор грыбоў: пільна ўглядаешся ў траву, падкалупваеш глебу – раптам што цікавае прыхавана трошкі глыбей.

На беразе Дняпра пачалі разглядаць знойдзеныя рэчы. Тэльман бярэ ў рукі кожную знаходку ў рукі, расказвае пра яе: "Гэта перапаленая гліна ці адходы жалеза, што сведчыць пра гаспадарчую дзейнасць, а гэта — фрагмент донца, паліты зялёнай глазур'ю (не пазней за 18 ст.), для вытворчасці якой выкарыстоўваўся свінец. Вось і маленькі фрагмент ляпной керамікі! Ён належыць да 17-18 стст."

Пасля вяртання ў родны Светлагорск, Тэльман раскладзе знаходкі на сонцы – каб сушыліся пасля мыцця ў рацэ. Самыя каштоўныя з іх, патрапяць у Жлобінскі музей.

Цікава, што нас чакае на восеньскіх археалагічных разведках...

# Сродкі масавай інфармацыі
## паведамляюць...

**06.08.2012**
**newsgomel.by:**
«Уже шестой год под руководством преподавателя БелГУТа Евгения Маликова на берегу Сожа в Чёнках проходит пленэр песчаной скульптуры. В этот раз традиционная для мероприятия исторически-мифологическая тематика сменилась пророческим взглядом в недалёкое будущее. А ведь на самом то деле, может, уже через лет 20 гомельчане будут ездить на работу по подземному городу на поездах с магнитными подушками… А те же самые студенты-архитекторы будут проектировать станцию, ну скажем, с названием «Редакционная». В любом случае хорошо, что есть энтузиасты, которые не выдумывают воздушные замки, а создают реальное воплощение давней мечты гомельчан о метро, и не важно, что пока вместо стали и камня – песок…».

**09.08.2012**
**gomelcivil.org**:
«Палітзьняволены Зьміцер Дашкевіч напісаў з Глыбоцкай папраўчай калёніі адказ на віншаваньне з Днём Незалежнасьці ад гомельскіх демакратаў. "Дзякуй вялікі Вам і калегам Вашым за віншаваньні! Разам мы даможамся таго дня, калі каштоўнасьці Дэкларацыі аб Незалежнасьці набудуць новае жыцьцё! Няхай Цару нябёсаў і зямлі ўмацоўвае нас усіх непахіснаю вераю і трываласьцю!"- піша Зьміцер у сваёй паштоўцы».

**10.08.2012**
**gomelcivil.org:**
«У Гомелі плануюць адкрыць літаратурную кавярню. Ініцыятыва належыць маладой гамяльчанцы Крысціне Ляхавай. Паводле ідэі, "літаратурная кавярня" будзе ўяўляць сабой месца, дзе ва ўтульнай абстаноўцы можна будзе пачытаць кнігу. Дзяўчына накіравала свой праект па стварэнні літаратурнай пляцоўцы на конкурс ў аблвыканкам і разлічвае выйграць грашовы грант. "Літаратурная кавярня – гэта шанец развіцця сучаснай культуры, выспа незалежнай творчасці, арт-пляцоўка. У нас будуць праводзіцца прэзентацыі, сустрэчы, розныя творчыя вечарыны. Вітаецца творчая ініцыятыва", -- заўважае аўтар цікавай ідэі Крысціна Ляхава…».

СПАДЧЫНА

# “Спакушэнне Францыска Скарыны” ў Гомелі

Кнігу пра Францыска Скарыну прэзентавалі ў Дзень беларускага кнігадруку. 495 год таму ў чэшскай Празе Францішак Скарына выдаў кнігу “Псалтыр”.

У Гомелі прайшла літаратурная імпрэза Івана Штэйнера - аўтара драмы “Мудрости зачало и конецъ, або спакушэнне Францыска Скарыны”. Аўтар прадставіў публіцы аднаўленую версію драмы пра беларускага першадрукара. Паводле Івана Штэйнера, дата мерапрыемства невыпадкова супала з 495-годдзем выдання першай друкаванай беларускай кнігі ў Празе.



- Я адмыслова імкнуўся правесці прэзентацыю гэтай кнігі менавіта ў гэты дзень. Нават адпачынак кінуў і прыехаў. 6 жніўня – гэта сапраўднае свята для ўсіх беларусаў і ўсіх усходніх славянаў. Некалі Маісей даў запаветы ўсяму чалавецтву, так і тут Францыск Скарына даў запаветы беларусам, як варта жыць, каб застацца беларусамі, застацца людзьмі.

Пісьменнік Анатоль Бароўскі высока ацэньвае ўнёсак Івана Штэйнера ў даследаванні асобы Францішка Скарыны.

- Я ведаю Івана Штэйнера вельмі добра. Гэта выдатны даследчык, гэта гонар Беларусі. Ён, праўда, не належыць ні да левых, ні да правых літаратараў. Ён ідзе як навуковец, як доктар філалагічных навук.

Драма прафесара Івана Штэйнера “Мудрости зачало и конецъ” стала асновай для пастаноўкі спектакля “Спакушэнне Францыска Скарыны”, які дэманструецца ў абласным драматычным тэатры.

**Мікола Бянько,**
*Радыё Рацыя*
Фота аўтара

ЗАХАПЛЕННІ

# Вынайсці ровар



**Юлія СІВЕЦ**

Зараз модна распавядаць пра рэчы, якія паступова сыходзяць у нябыт. Сярод іх – газавая лампа, лічыльнікі, валіза без колаў. Да гэтага спісу можна дадаць вобраз чалавека з савецкіх часоў, які едзе сабе на веласіпедзе маркі “Аіст” ці “Украіна”. Памятаеце, як яшчэ гадоў 15 таму маладзёны ездзілі, стоячы ззаду на багажніку? Гадоў 20 таму рамантычныя хлопцы падвозілі каханых дзяўчат “на раме” на якую-небудзь дыскатэку ў дом культуры. А паўнацелых жанчын пенсійнага ўзросту ў трыко, якія марудліва едуць у краму па хлеб, можна і дагэтуль убачыць у вёсках. Аднак усё гэта паступова знікае. На іх месца прыходзяць актыўныя маладзёны, якія гойсаюць на “Cannondale”, “LTD”, ці “Stels”.



Маладое пакаленне раварыстаў – гэта людзі самых розных зацікаўленасцей і прафесій. Гэта студэнты, праграмісты, журналісты, настаўнікі. Яны могуць паралельна дзенічаць у валанцёрскіх рухах, абараняць жывёл ці помнікі культуры, граць у гуртах, займацца краяўзнаўствам ці фальклорам. І аб'ядноўвае іх разам – ровар.

Гэта ўжо не адзінкавая язда на роварах па справах, як гэта было

>>>4

3 <<<

некалькі дзясяткаў гадоў таму. Ровар – гэта ўжо стыль жыцця. Іх не любяць пешаходы і кіроўцы аўтамабіляў. А яны спрабуюць змагацца за свае правы: за роўнасць на дарогах, за веласіпедныя дарожкі. Яны становяцца грамадскім рухам, ініцыяваным знізу. Яны збіраюцца, ладзяць святы, велапрабегі і пакатушкі.

У Гомелі некалькі гадоў таму з'явіўся велаклуб. У скарбонцы клуба – правядзенне велапрабегаў да дня без аўтамабіля, конкурсаў "Міс і містэр", "Велагомеля на ільдзе", рэалак і іншых мерапрыестваў.

Раварысты ў нашыя дні – гэта як металісты напрыканцы 1980-х. Толькі тады адзнакай прыналежнасці да групы быў значак. Цяпер – ровар. Аднак і тое, і іншае – гэта неад'емныя часткі грамадзянскай супольнасці. Тут маюцца і гарызантальныя сувязі, і ініцыятыва знізу, і актыўнасць людзей.

Актыўны ўдзельнік велаклуба "Гомель" **Сяргей Дашкевіч** – пра імкненне атрымліваць задавальненне не толькі ад язды на ровары, але і ад стасункаў з людзьмі.

*Што такое велаклуб? Супольнасць сяброў, альбо актыўных людзей, якія жадаюць адстойваць свае правы?*

- Гэта супольнасць людзей, якія хочуць катацца разам і атрымліваць ад гэтага задавальненне.

*Для чаго ствараўся велаклуб?*

- Проста ў нейкі момант некалькі чалавек захацела даведацца, ці ёсць людзі ў Гомелі, якія падзяляюць іх захапленні. Завялі групу УКантакце і пачалі катацца.

*А ці памятаеце заснавальнікаў клуба?*

- Асабіста я іх не ведаю. Тым болей, адзін з іх ужо пераехаў у Мінск.

*У велаклубе ёсць нейкая ідэалогія ці філасофская база?*

- Няма ніякай базы. Проста катаемся і атрымліваем задавальненне.

*Як Вы самі прыйшлі ў велаклуб?*

- Знайшоў УКантакце групу і прыехаў на адно з мерапрыемстваў.

*Ці можаце ўзгадаць, калі ўпершыню з'явілася цікаўнасць да ровара?*

- Ой, вельмі даўно гэта было. Не памятаю ўжо.



*Якія найбольш знакавыя мерапрыемствы вы зладзілі?*

- Веласвята ў мінулым годзе было, на якое прыехала парадку 80 чалавек. Мерапрыемства доўжылася два дні. Мы выехалі на бераг Сажа і там праводзілі свята. Таксама часам выязджаем пакатацца па Гомелі, каб паказаць жыхарам горада, што ёсць такі велаклуб.

*Колькі чалавек налічвае клуб?*

- На старонцы суполкі маецца 1040 чалавек. Аднак актыўных удзельнікаў мерапрыемстваў -- парадку ста чалавек. Гэта звычайна людзі ад 18 да 30 год. Хаця ёсць, канешне, больш старэйшыя і больш малодшыя.

*З якімі праблемамі сутыкаюцца раварысты ў нашым горадзе?*

- Адсутнасць інфраструктуры для раварыстаў.

*Як спрабуеце вырашыць дадзеную праблему?*

*Можа быць, плануеце правядзенне маштабнай акцыі?*

- Пакуль што спадзяемся на разуменне горада. Што яны самі прыйдуць да таго, што гэтую праблему трэба вырашаць.

*Можа быць, спрабавалі звяртацца да чыноўнікаў?*

- Так, неяк пісалі гарадскім уладам. Але я ўжо дакладна не памятаю. Болей гэтае пытанне не ўздымалася.

*А што асабіста для вас велаклуб?*

- Стасункі, цікавыя людзі... Не ведаю... У прынцыпе і ўсё. Але галоўнае - гэта стасункі. То бок ты атрымліваеш задавальненне не толькі ад язды на ровары, але і ад стасункаў з іншымі людзьмі, якія падзяляюць тваё інтарэсы.

*7 ліпеня вы плануеце яшчэ адну начную пакатушку? Які сэнс у гэтым?*

- Проста пакатацца па начным горадзе, атрымаць ад гэтага задавальненне і сустрэць світанне.



ВАЛАНЦЁРСТВА

# Зооабаронца: прафесія ці стыль жыцьця?



**Ёсьць людзі, якія імкнуцца не абмінуць увагай і цеплынёю кожную беспрытульную жывёлу...**

Мая размова з кіраўніцай валанцёрскага руху па абароне бадзяжных жывёлаў горада Гомеля, назначаная на 3 гадзіны дня. Дождж лье з самага ранку, і вось я вырашаю адмяніць сустрэчу, бо ў такі дзень, на мой погляд, на вуліцу можна выйсьці толькі пад прымусам. Я яшчэ ня ведаю, як моцна памыляюся. Тэлефаную Сьвятлане і даведваюся, што Яна мяне ўжо чакае. Ну што ж… Даводзіцца ехаць. Еду ў аўтобусе: за вакном мокрыя людзі, дрэвы, вялікія лужыны. “Дзе хаваюцца ў гэты час беспрытульныя жывёлы?” – паўстае пытаньне ў маёй галаве. – “І як Яны здабываюць ежу, калі ўжо трэці дзень бесперапынна лье дождж?”Адказы на гэтыя патаньні я бачу амаль на кожным прыпынку грамадзкага транспарту: вось котка, якая схавалася пад шапікам з гароднінай, вось дарослы пёс, які пабачыў шмат такіх дажджоў і проста ляжыць , крыху прыхаваўшыся пад дрэвам, а вунь на руках у маленькай дзяўчынкі кацянятка, вуркоча і просіць пяшчоты і чаго-небудзь паесьці.

## Валанцёрскі лёс

Прыязджаю да Сьвятланы. Праходжу ў кватэру – і мяне сустракаюць брэхам два сабакі і маленькі шчанюк. “Праходзьце-праходзьце! Яны не кусаюцца!” – кажа Сьвятлана. Жывёлы прызнаюць мяне, здагадаўшыся, што я не зраблю ім нічога дрэннага і пачынаюць па-сяброўску лашчыцца.

Гаспадыня шчыра прапануе мне гарбату і я не магу адмовіцца, бо за час шляху добра зьмерзла.

-Сваіх жывёлаў у мяне трое: кот і два сабакі. – распавядае Сьвятлана. – Але ў такім складзе мы бываем рэдка, бо амаль кожны дзень даводзіцца кагосьці выратоўваць і браць да сябе, таму што больш няма куды, а на вуліцу хворую жывёліну не выставіш – сэрца баліць.

-І як ставяцца да “навічкоў” вашыя выхаванцы? – запытваю я.

-Ставяцца добра. Яны ў мяне вельмі гасьцінныя. Ды й прызвычаіліся ўжо напэўна, – сьмяецца гаспадыня. – Прыкладна тры гады я займаюся абаронай жывёлаў. За гэты невялічкі прамежак часу дапамога безабаронным істотам стала сэнсам майго жыцьця.

Я задумваюся на імгненьне: ёсьць хосрісы для хворых дарослых і дзяцей, ёсьць рознага кшталту інтэрнаты і дамы для састарэлых… Напэўна, мусіць быць і прытулак для жывёлаў?

-Сьвятлана, а ці ёсьць у нашым горадзе прытулак для жывёлаў? Ці клапоціцца пра іх дзяржава? – запытваю я з зацікаўленасьцю, бо гэтае пытаньне мяне сапраўды азадачыла менавіта зараз.

-Прытулка ў Гомлі няма. І адзіны шлях для жывёлаў у нашым горадзе – гэта забойства электратокам. Менавіта так мясцовыя ўлады пра іх клапоцяцца: існуе адмысловая служба “Спецкамунтранс”, якая займаецца адловам і ліквідацыяй бадзяжных жывёлаў. Часам да іх у рукі

*«Прыкладна тры гады я займаюся абаронай жывёлаў. За гэты невялічкі прамежак часу дапамога безабаронным істотам стала сэнсам майго жыцьця...»*



**Зооабаронца Сьвятлана Лапо**

трапляюць і хатнія, якія згубіліся. Далей сцэнар просты: такую жывёлу заб’юць з дапамогай электратока ў той жа дзень. На самой справе, прытулак – гэта палка аб двух канцах: з аднаго боку гэта вельмі добра, гуманна і так мусіць быць у любой цывілізаванай краіне, а з другога – у нашым грамадзтве прытулкам праблему не вырашыць, бо толькі ён адчыніцца – людзі адразу ж пачнуць прыносіць туды ўласных жывёлаў, тых, хто нарадзіўся ў іх дома, а таксама жывёлаў з падвалаў і двароў.

-А дзе вы трымаеце жывёлаў, якія трапляюць да валанцёрскага руху?

-Мы вымушаныя браць іх да сябе, альбо здымаць памяшканьні для перетрымкі за ўласныя сродкі ці за кошт ахвяраваньняў неабыякавых людзей. Мы – валанцёрскі рух і ня маем ніякага фінансаваньня. Два гады таму мы проста стварылі суполкі ў сацыяльных сетках, для таго каб было лягчэй каардыянаваць нашую працу і інфармаваць як мага большую колькасьць людзей. Дзякуючы сацыяльным сеткам да нашага руху далучаюцца новыя сябры ці проста людзі, якія могуць прапанаваць нейкую дапамогу.

>>> 6

5 <<<

Дзяўчына ўзяла аркуш паперы і асадку і сьпешна напісала: http://vk.com/club.animals.gomel. Працягнуўшы мне паперку сказала:

-Вось тут вы можаце нас знайсьці.

## Сапраўды нялёгкая праца

Мне стала цікава паназіраць за валанцёрамі ў іх штодзённай працы:

-А ці магу я правесьці з вамідзень, кааб адчуць сябе ў скуры валанцёра?

-Канешне можаце! Можна нават сёньня. Мы з дзяўчаткамі-валанцёркамі як раз сустракаемся праз паўгадзіны.

У гэты час мой позірк спыніўся на падваконьніку, на якім сядзеў кот і глядзеў на двор. За вакном усё яшчэ льле дождж і дзьме моцны вецер. Мы дапіваем гарбату, хуценька апранаемся і рушым у шлях. Ад дома Сьвятланы едзем некалькі прыпынкаў, а потым ідзем пешшу. Нарэшце прыходзім у здымнае памяшканьне, дзе ўжо ва ўсю працуюць валанцёры: нехта прыбірае, нехта гатуе ежу, нехта займаецца лячэньнем жывёлаў. У памяшканьні ўсё на дзіва чысьценька і дагледжана. Мне не хочацца замінаць валанцёрам сваімі пытаньнямі і я прапаную дапамогу. Некалькі гадзін працы: памяняць латочкі для катоў, памыць і напоўніць ежай місачкі, падмесьці і вымыць падлогу, працерці пыл… І гэта далёка ня ўсё.

За ўвесь час працы тэлефон Сьвятланы змаўкае максімум на паўгадзіны. Няўжо гэта не раздражняе? Раздаецца чарговы званок. Дзяўчына размаўляе прыкладна 10 хвілін, нешта тлумачыць, нешта запытвае.



-На прыпынку "Н" ляжыць зьбіты машынай сабака. Трэба ехаць.

Паўгадзіны шукаем машыну, едзем на месца. На прыпынку "Н" ляжыць невялічкі шчанюк. Забіраем. Вязем у ветклініку. Чакаем дзьве гадзіны пакуль накладуць гіпс і ў гэты ж час шукаем пepатрымку. Нават я спрабую дамовіцца са знаёмымі і сябрамі, якія б патэнцыйна змаглі ўзяць да сябе шчанюка хоць на некаторы час…



*«Мне стала цікава паназіраць за валанцёрамі ў іх штодзённай працы…»*

## Валанцёрскія гісторыі

Пасьля напружанага працоўнага дня Сьвятлана запрашае мяне і дзяўчатак-валанцёрак на гарбату з печывам.

Я прашу дзяўчат распавесьці свае гісторыі: хто з чаго пачынаў і чаму наогул узьнікла жаданьне стаць валанцёрам па абароне жывёлаў.

**Ганна:**

Праз сацыяльную сетку мне прыйшло за-

>>> 7



6 <<<

прашэнне на акцыю "Падары ім шанец".Я вырашыла пайсьці туды. Акцыя вельмі кранула мяне. Потым я прыйшла дадому і знайшла суполку валанцёрскага руху Ўкантакце, пачала рэгулярна чытаць інфармацыю, пасты, каментары. На той момант у мяне тры гады ўжо як не было ката і я хацела ўзяць сабе каго-небудзь. Маці была катэгарычна супраць, але я цвёрда вырашыла што вазьму кацянятка ў валанцёраў. Я знайшла сабе котачку маленькую, узяла яе. Але котка ўпарта не хацела хадзіць ў латочак. Я змагалася з ёй з тыдзень, не вытрымала і аддала назад. Пазьней я адважылася ўзяць на ператрымку хворага ката. Зараз гэта мой Саньнік.

**Анастасія:**

Я ўбачыла ў сяброўкі на старонцы ў сацыяльнай сетцы перапост пра нямецкую аўчарку, якую выкінулі і яна ўвесь час ляжала каля лаўкі і чакала свайго гаспадара. Перайшла па спасылцы і патрапіла ў суполку валанцёрскага руху. Затым убачыла абмеркаваньне «Хто жадае стаць валанцёрам». Пасля нядоўгіх роздумаў вырашыла стаць валанцёрам.

Набліжаецца вечар. Мы з Ганнай і Анастасіяй дзячым гаспадыні за гарбату і сыходзім па дамох. Вяртаючыся дадому я ўсё яшчэ думаю пра тое, што сёньня пабачыла: пра сабак і котак на прыпынках, пра валанцёраў, пра прытулкі, якіх у нас няма, пра маленькага шчанюка ў гіпсу. Але зараз гэтае пачуцьцё на шмат адрозьніваецца ад таго, што я адчувала, калі ехала на сустрэчу: зараз я дакладна ведаю, што ёсьць людзі, якія імкнуцца не абмінуць увагай і цеплынею кожную беспрытульную жывёлу.

# Сродкі масавай інфармацыі паведамляюць...



**11.08.2012**

**gp.by:** В рамках гранта Глобального фонда в Беларуси организован телефон доверия по ВИЧ/СПИД и наркомании... Профессиональные консультанты оказывают психологическую поддержку, дают советы по вопросам жизни с ВИЧ, рассказывают о возможностях по преодолению наркотической зависимости. Реализация данного проекта включена в государственную программу по профилактике ВИЧ-инфекции в Республике Беларусь».

**17.08.2012**

**belta.by:** «Выставка фотографий, живописи, графики и сказки под названием "ТриКОТа-Ж" сегодня открылась в музее истории города Гомеля… На выставке экспонируется 20 фотографий креативного фотографа Алексея Громыко, около 10 графических и живописных работ Алены Астаховой и более 20 графических и живописных произведений художника Анатолия Щеголева, который также презентует здесь свою первую детскую книгу. Названные авторы хорошо известны широкой публике. Так, речичанин Анатолий Щеголев сегодня один из самых востребованных шаржистов Беларуси. Его работы находятся в музеях, галереях и в частных коллекциях более чем 20 стран. Алена Астахова, по образованию художник-керамист, является автором семинаров на тему "Гармоничное развитие ребенка посредством здоровых и естественных условий существования и приобщения к культурным ценностям"… Алексей Громыко - стремительно набирающий обороты креативный фотограф…».

**18.08.2012**

**newsgomel.by**: «Новый вид спорта и абсолютно безумный механизм для экстремального отдыха и развлечений увлёк наших горожан этим летом в районе Клёнок. Взлететь на расстояние 10 метров над водой, нырнуть, как дельфин, или резко взмыть на водной струе вверх помогает флайборд. Механизм представляет собой пару водомётных ботинок и ручных стабилизаторов, соединённых с гидроциклом длинным гибким шлангом, подающим струю воды. Передвижение флайбордиста в пространстве осуществляется при помощи управления мощностью выброса струй воды. Инструктаж полётов на таком механизме занимает всего 20 минут. И в течение следующих получаса-часа занятий новоиспечённый пилот флайборда уже на довольно профессиональном уровне может управлять им».

**20.08.2012**

**gomelcivil.org:** «Гомельская моладзь самаарганізавалася праз сацыяльную сетку Укантакце, каб прыбіраць смецце з гарадскіх лясных масіваў. У мікрараёне Валатава ўдзельнікі суполкі "Прыбіраем смецце ў лесе і думках" прыбіралі ў канцы ліпеня. У выніку працы, як зазначаюць актывісты-эколагі, было прыбрана некалькі дзясяткаў пластыкавых мяхоў смецця на беразе вадаёма і каля царквы, што знаходзіцца ў раёне Валатава. 18 жніўня эколагі ажыццявілі вылазку ў раёне Сельмаш. Хлопцы і дзяўчаты прыбіралі пластыкавыя бутэлькі і пакеты ў адной з раённых лесапалосаў. Як адзначаюць актывісты, "прыборка прайшла вельмі паспяхова. Месца быо паўторна ачышчанае ад адкідаў".

**20.08.2012**

**gomelcivil.org:** «У межах дабрачыннага праекта "Дапамога дзецям Чарнобыля" 12 беларускіх дзетак з пацярпелых ад тэхнагеннай катастрофы на ЧАЭС раёнаў адправіліся ў госці да вядомых футбалістаў. Беларускія дзеці, як паведамляе афіцыйны сайт футбольнай каманды Ліверпуль", прабудуць у Велікабрытаніі цэлы месяц. Каардынатар праекта па дабрачыннасці Нікола Морс адзначае: "Калі яны прыязджаюць у Велікабрытанію, узровень імуннай сістэмы ў дзяцей вельмі нізкі. У іх праблемы са шчытавіднай залозай, яны вельмі бледныя, а таксама ў іх назіраецца недахопы вагі".

**20.08.2012**

**gomelcivil.org:** «Пад Чарнігавам пройдзе летнік для моладзевых лідараў з Украіны, Беларусі, Расіі, Польшчы і Чэхіі. Цягам змены моладзь будзе абменьвацца вопытам актывізму ў сваіх краінах, вывучаць асновы эфектыўнага мэнэджмэнта ў НДА і ўдзельнічаць у пазнавальных экскурсіях. Чарнігаўская мэрыя абвясціла набор удзельнікаў у міжнародны лагер "Скрыжаванне 2012", які пройдзе ў мястэчку Колічэўка…».

СУМНАЯ СТАТЫСТЫКА

# Гомель старэе

Ірына ЛАПІЦКАЯ

Гомельская моладзь складае ўсяго 30% ад агульнай колькасці насельніцтва абласнога цэнтра. Прычым ва ўзросце ад 18 да 31 года маладых людзей налічваецца 107988 чалавек. Тады як ва ўзросце ад 14 да 17 год усяго 43400. Па ўсёй вобласці моладзь ад 14 да 31 года складае 368 тысячаў чалавек. А яшчэ тры гады таму гэтая лічба складала практычна на 4 тысячы болей.

Паводле інфармацыі Галоўнага статыстычнага ўпраўлення Гомельскай вобласці Людміла Мітрахова, у 2011 у Гомелі нарадзілася 5338, а памерла 5423 чалавек. То бок насельніцтва ў Гомелі стала на 85 чалавек меней. Змяншэнне колькасці народжаных людзей спецыялісты звязваюць з тым, што ў дзетародны перыяд ўступіла пакаленне людзей, якія нарадзіліся ў пачатку 1990-гадоў. А тады акурат наступіла зніжэнне нараджальнасці.

# СМІ паведамляюць

**21.08.2012**

**belta.by:** «С 27 августа в Гомеле ВИЧ-инфицированные смогут получить бесплатные презервативы. Такая услуга будет оказываться Белорусским общественным объединением "Позитивное движение". Чтобы получить средства защиты, нужно обратиться в любой центр социального сопровождения. Люди, живущие с ВИЧ, могут регулярно получать здесь презервативы, не называя при этом личных данных. Услуга реализуется Белорусским общественным объединением "Позитивное движение" при поддержке гранта Глобального фонда для борьбы со СПИДом, туберкулезом и малярией (ГФ) "Обеспечение всеобщего доступа ключевых пострадавших групп населения в Беларуси к профилактике, лечению и уходу в связи с ВИЧ".

**23.08.2012**

**gomelcivil.org:** «Маладыя людзі абласнога цэнтра арганізаваліся, каб разам трэніравацца. Як паведамляецца на старонцы суполкі Ghetto Workout in Gomel, Workout – гэта "альтэрнатыўны варыянт працы над сваім целам, які не патрабуе фінансавых выдаткаў на наведванне фітнэс цэнтраў". Спецыфіка такіх заняткаў у тым, што для трэніровак выкарыстоўваюцца дрэвы, агароджы, разнастайныя металічныя канструкцыі, каменныя пліты, разнастайныя віды сценаў і парапетаў і г.д. "Шукаеце сумесныя трэніроўкі? Цікавыя мерапрыемствы? Адказ відавочны. Гэта нашая суполка. Аб'ядноўваемся, браты", -- пішуць арганізатары Workout».

**25.08.2012**

**gomelcivil.org:** «Маладыя людзі Гомеля аб'ядналіся, каб дапамагаць людзям, якія жывуць у дамах для састарэлых. Дапамагчы можна па-рознаму. Можна ўдзельнічаць у напісанні лістоў самотным старым. "Для старых нашыя лісты – сапраўдныя падзеі, доўгачаканыя і радасныя, а мы – іхнія сябры па перапісцы – часам адзіныя блізкія ім людзі", -- лічаць маладыя гамельчукі… Акрамя ліставання, гамельчукі могуць з'ездзіць у дамы састарэлых. Альбо паўдзельнічаць у дабрачынным праекце + hand-art. Для гэтага дастаткова набыць упрыгожанні, паштоўкі і г.д. А выдаткаваныя грошы пойдуць на дапамогу дзецям-інвалідам, сіротам, жыхары дамоў для састарэлых і ўсім, хто мае патрэбу ў дапамозе».

**27.08.2012**

**gp.by:** «Сообщество анонимных алкоголиков приглашает на собрания группы "Рубикон" всех, кто страдает от алкоголизма и ощутил на себе тяготы этого недуга. В ходе тренингов обсуждаются методы борьбы с алкоголизмом, варианты оказания практической и психологической помощи лицам, склонным к злоупотреблению спиртным. Собрания проводятся каждый последний четверг месяца по адресу: Гомель, ул. Юбилейная, 8, корпус 2…».

ИНФОРМАЦИОННЫЙ БЮЛЛЕТЕНЬ

**Учредитель и редактор Василий ПОЛЯКОВ**

**А/я 28, 246003, Гомель. E-mail: vpalia@tut.by. Тираж 299 экз.**



**Отпечатано на личном оборудовании. Распространяется бесплатно.**